Народная Воля 30 КАСТРЫЧНІКА 1999 г.

Интересный собеседник

*Ольга ДАШУК*

# Как бродяжка стал сэром

*Он известен как первый белорусский аукционист. Внешне похож на короля Речи Посполитой Жигимонта Августа II — и в этой роли снялся в фильме. Худой и лысый. Его зовут Виктор Шалкевич. Недавно он записал свой второй альбом "Балады і рамансы". Первый назывался "Смутны беларускі блюз".*

**— Виктор, тебе скоро сорок, а ты выпустил всего два альбома...**

— Ну и что? Мне вот недавно пришел пакет — перевод моих песен на чешский язык. Это так здорово! Да ты покажи мне хоть одного белорусского барда, которого бы перевели на украинский, чешский и польский! Недавно я ездил с гастролями по Беларуси. Выступал в небольших залах — по 150—200 мест, зато всегда они были полные. Вообще, что такое широкая известность? Когда тебя ежедневно по радио крутят, по телевизору показывают? Я горжусь тем, что известен в определенных кругах. Снимался в фильмах, которые мало кто видел. Пою песни, которые слушают избранные.

**— И про что ты поешь?**

— Возможно, я живу не в то время и не в том месте. Знаешь, одной ногой я стою в XIX веке, другой — в начале XX. Меня восхищает наше прошлое: "золотой век", многонациональность Великого княжества Литовского. Когда-нибудь это должно возродиться. Беларусь никогда не была урбанизированной страной. И не надо к этому стремиться. Она была страной маленьких местечек со смешанным белорусско-польско-еврейским населением. Об этом я и пою.

Кстати, недавно я пережил такое потрясение... Во Франции играл в спектакле Гродненского кукольного театра. Вечером был банкет в старинном замке XIV века. Представляешь: ночь, звезды, мы пьем кальвадос. Я держу француженку в объятиях. Мы танцуем под музыку моей кассеты. А она, не зная ни слова ни по-русски, ни по-белорусски, напевает мне на ухо мою собственную песню "Шалёная...".

**— Как ты думаешь, тебе жизнь удалась?**

— Что значит "удалась"? Удается! Очень многое в жизни зависит от меня. Сейчас масса людей нарекает на недостаток внимания, недостаток денег, на провинциализм в отношениях. Актеры спиваются, им нечего делать. У меня же вечно нет времени. Я постоянно занят, езжу. Езжу и вижу, что мы так увлеклись своими белорусскими ранами и лаптями, что не осознали, как сильно мы отстали от мира. А вообще, наше время напоминает мне время раннего Нового Завета. Появился мужицкий пророк, который обещает Новое Евангелие. Немые начинают говорить...

— ?!

— Разве ты не слышала, как после одного митинга немой в милицейском участке "заговорил", показания дал?

Обидно: сейчас, в конце XX века, перед переходом в новую эру, все сделали какой-то кардинальный скачок, а мы... Все у нас существует "будто бы". Будто бы белорусская эстрада, которой на самом деле нет. Будто бы белорусская литература. Будто бы белорусское кино. Все это ненастоящее...

**— А что у нас есть?**

— Не знаю пока еще. Наверное, все это нужно перетерпеть. Моисей 40 лет водил израильский народ по пустыне, пока последний человек, родившийся в египетском рабстве, не умер. Я даже смирился с теперешним выбором народа *(смеется).*

**— Но через 40 лет ты же будешь старый дед, ни на что не способный?**

— Пусть так. Поляки 200 лет воевали за свою независимость.

Кстати, в Польше и вообще за границей меня понимают лучше, чем дома. Я был и в Вильнюсе, в Художественной галерее. Случайно оказалась гитара, я стал петь песни по-белорусски. Так вот, все русские, кто там был, сели и взялись за головы: "Какой чудесный архаичный язык!" Мне стало ясно: вот они, мои братья, русская интеллигенция. Дело не в том, что я белорусский бард. Что, я пою о каких-то отрицательных ценностях? Или национальные ценности белорусского народа не совпадают с ценностями русского, украинского, литовского, польского? Я в Вильнюсе вдруг почувствовал — русские стали мне ближе, чем белорусы. Они меня поняли за 15 минут.

**— Может, то, что на родине тебя не совсем понимают, связано с тем, что ты поешь на белорусском языке?**

— Неизвестно, кто останется в белорусской истории: те, кто сегодня "косит" под российскую попсу — или я.

**— Виктор, в одной из твоих песен есть слова: "І знаюць у вёсцы і пан, і мужык — яна праваслаўная, я каталік..." Я знаю, что так и у тебя в семье...**

— Да, но ведь для Беларуси это обычная ситуация. Мы с женой пошли в костел и обвенчались. У нас нет проблем по этому поводу.

Вообще моей жене при жизни нужно памятник поставить. Ей многие говорят: "Ой, наверное, вам с ним так весело жить. Он, видно, все время шутит, анекдоты рассказывает". Моя Ирка очень терпеливая. Не каждая женщина могла бы выносить такого человека, как я. Я очень редко бываю дома. А она всю жизнь, можно сказать, посвятила мне. Я в доме колесо ведущее, она — ведомое. Ей из-за того, что я делаю, приходится чем-то своим поступаться. В компаниях мне обычно нужно заводить публику, я весь вечер с гитарой, а жену бросаю. Она переживает.

**— А ты переживаешь из-за этого?**

— Мне некогда. В то время я об этом не думаю. Она одна сидит, а я пою.

**— Как ты попал в аукционисты?**

— Друзья предложили. Аукционы — очень интересная часть жизни, вроде праздника. Я, кстати, всегда провожу их с анекдотами, шутками, под музыку. Люди должны весело расставаться с деньгами.

Потом, это знакомства. На торгах я приобретаю такой жизненный опыт, который нигде больше не получу. Однажды муж хотел купить квартиру, а жена не давала. Он свой номер вверх тянет, а жена его по плечу — шах! А ведь купил-таки. Азартная такая атмосфера. Есть люди, которые приходят не покупать, а просто подкинуть цену, чтобы сделать конкуренту плохо. Пару лет назад один мужчина приволок с собой чемодан, битком набитый деньгами, там — два миллиарда рублей. Правда, документов на них не было, а мы вынуждены соблюдать все формальности. Так ему ничего и не продали...

Знаешь, многие уверены, что я получаю на каждом аукционе 5 процентов от суммы купленного имущества. Да если б я столько зарабатывал, давно бы жил уже в Швейцарии...

Аукционы дают мне очень большую уверенность в себе. Из-за этого я стал достаточно нахальным в жизни. Раньше я был скромным человеком. Родился в маленьком местечке в Западной Беларуси. До 17 лет видел только два "великих" города — Волковыск и Брест. А теперь про меня можно сказать: "Бродяжка Чарли стал сэром..."

Стоп-кадр



Автомобильные дороги, вид с высоты птичьего полета.
Фото IREX/ProMedia.

## Зашуміць дрэвамі дэндрапарк

Па прыкладзе сваіх суседзяў-глыбачан вырашыў закласці ўласны дэндрапарк і калектыў Дзісненскага лясгаса Міёрскага раёна. Для будучага парка жывой прыроды, які паўстане ўжо ў новым тысячагоддзі, адведзена каля трох гектараў зямлі ля вёскі Залонцы, дзе раней распрацоўваўся кар'ер. Мяркуецца, што з прыходам цяпла пачнуцца пасадачныя работы, і ў глебу лягуць саджанцы 50—60 розных парод дрэў і прыгожых кустарнікаў. Паблізу Глыбокага ўжо назапашаны вопыт, як можна ператварыць звычайны куток у дзіўнай прыгажосці зялёны сад. Дарэчы, глыбоцкі вопытны лясгас пачынаў закладваць дэндрапарк у 1963 годзе на меншай плошчы, а зараз не перастаюць здзіўляць тут экскурсантаў і спецыялістаў больш за пяцьсот дрэў з усяго свету.

**Уладзімір КОРЗУН.**

Рэха

# Я бачыў гэта сам

Радыёстанцыі свету, розныя тэлевізійныя каналы па некалькі разоў расказваюць і паказваюць пра падзеі ў Мінску 17 кастрычніка. Найбольш поўна пра гэта расказала расійскі дэпутат Вольга Аляксееўна Беклямішчава на НТВ у перадачы "Герой дня" 18 кастрычніка. Але яна прызналася, што не ўсё бачыла и не ўсё ведае.

Дык вось, я, удзельнік гэтага "Маршу", хачу яе дапоўніць.

Вельмі добра, што мітынг на плошчы Бангалор не быў працяглым. Што там было нам, беларусам, гаварыць, калі наша святое месца — гэта плошча Незалежнасці. (А на плошчы Бангалор няхай збіраюцца і мітынгуюць сябры Таварыства культурных сувязей с Індыяй.) І добра зрабілі, што спалілі гэтае "пасмешышча" — праект дагавора аб аб'яднанні з Расіяй.

Калі вялізная калона дэманстрантаў рушыла на плошчу Незалежнасці, людзей у ёй было больш, чым на першым "Чарнобыльскім шляху".

Але вядома, што лукашэнкаўскія спецслужбы дарма хлеб не ядуць. Мяркую, яны прыклалі немалыя намаганні, каб апаганіць наш "Марш Свабоды": то нейкія тыпы раптам тралейбус спыняюць, то спрабуюць шкло разбіць ці кіёск падпаліць. І, што характэрна, размаўлялі тыя тыпы — я чуў — на рускай мове. Але іх правакацыі не ўдаваліся, бо беларускія хлопцы бралі хуліганаў за каршэнь і выштурхоўвалі з калоны. Праўда, тым усё-такі ўдалося падпаліць некалькі скрынак са смеццем.

Калі галава калоны падышла па вуліцы Багдановіча да скрыжавання з вуліцай Варвашэні, далейшы шлях перагарадзілі міліцыянты. Арганізатары акцыі вырашылі не ўвязвацца ў сутычку з імі, і талерантныя беларусы павярнулі на вуліцу Варвашэні. Дайшлі да праспекта Скарыны. Тут шлях на плошчу Незалежнасці зноў быў перагароджаны міліцыянтамі. Я лічу гэта велізарным здзекам з боку ўлад над грамадзянамі, якім забаранялі прайсці ў іх родным горадзе па іх роднай зямлі да свайго святога месца.

Але кіраўнікі калоны і тут ухіліліся ад сутычкі і павялі людзей на Першамайскую вуліцу. Я падышоў да ланцуга міліцыянтаў, што перакрылі праспект Скарыны і загаварыў з імі. Усе яны размаўлялі выключна па-руску,

Лічу памылкай, што кіроўцы павялі "Марш Свабоды" па Першамайскай вуліцы, бо там яны фактычна ўлезлі ў пастку, падрыхтаваную спрактыкаванымі міліцыянтамі. Вельмі дакладна расказала аб гэтым Вольга Беклямішчава: справа — металічны плот парку М.Горкага, злева — двары, забітыя машынамі і міліцыянтамі, а наперадзе — вузкі мост, рака Свіслач і ланцугі ўзброеных "ваяроў" з атрутным газам. І тут Статкевіч у мегафон сказаў: "Хлопцы, тут не пройдзем, вяртаемся назад". Перадавыя шарэнгі павярнулі, і талерантныя беларусы ў трэці раз хацелі пазбегнуць сутычкі са службамі нелегітымнага рэжыму. Але, мяркую, убачыўшы, што ўсё можа скончыцца непажадана (для іх непажадана) мірна, міліцыянты выпусцілі з-за сваіх шчытоў спецназаўцаў. І яны ўдарылі ў спіну адыходзячай калоне. І таму прыйшлося адбівацца тым, што трапіла пад руку.

Цяпер улады спасылаюцца на законы, якія мы нібыта парушылі. Галоўны закон для нас — Канстытуцыя...

**Мікола ЛУКАНСКІ,**
**удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, ветэран Узброеных сіл.**
Мінск.

## Французские лекарства для больных раком

На днях Чрезвычайный и Полномочный Посол Франции в Беларуси г-н Бернар ФАСЬЕ передал 5 тонн медикаментов для лечения рака щитовидной железы для клиники НИИ Радиационной медицины в Аксаковщине.

Эти медикаменты — "Levothyrox" (44 000 упаковок), "Ostram" (14 600 упаковок) и "Uncalfa" (5 500 упаковок) — французских лабораторий Lipha (Лифа) и Leo (Лео) были подарены французской компанией "EDF" ("Электросети Франции") в рамках программы гуманитарной помощи белорусским жертвам чернобыльской катастрофы, благодаря которой уже было доставлено медицинское оборудование высокой специализации, прошло обучение во Франции белорусских врачей, а также в 1996 и 1998 годах были соответственно дважды осуществлены поставки медикаментов, каждая из которых позволяла осуществлять лечение в течение года. Третья поставка медикаментов общей стоимостью **260 000 долларов США** покрывает потребности Клиники НИИ Радиационной медицины в Аксаковщине, начиная с января 2000, в лечении рака щитовидной железы у 2000 больных в течение двух лет.

**Марина ВИШНЕВСКАЯ.**

## З-за няроўных умоў гаспадарання з расійскімі прадпрыемствамі Гродзенскі камбінат будматэрыялаў губляе рынкі збыту

Акцыянернае таварыства "Гродзенскі камбінат будаўнічых матэрыялаў" губляе рынкі збыту ў Расіі. 90 працэнтаў экспартных паставак прадпрыемства прыпадае на Калінінградскую вобласць; чакаецца, што аб'ём гандлю камбінату з гэтым рэгіёнам паводле вынікаў года дасягне 1 мільёна долараў ЗША.

Аднак апошнім часам прадпрыемству з цяжкасцю ўдаецца збываць сваю прадукцыю ў Калінінградскай вобласці. Прычым справа не ў якасці: камбінат не можа канкурыраваць з расійскімі вытворцамі будматэрыялаў з-за таго, што знаходзіцца з імі ў розных гаспадарчых умовах. Расійскія прадпрыемствы атрымліваюць газ па цане 17 долараў ЗША за тысячу кубаметраў, а Гродзенскі КБМ — па 69,9 долара ЗША. Пры гэтым доля энерганосьбітаў складае ў сабекошце прадукцыі прадпрыемства 37 працэнтаў. У выніку зніжаецца ўдзельная вага зарплаты, не хапае абаротных сродкаў і камбінат не ў стане купляць новыя тэхналогіі, хаця знос асноўных фондаў дасягае 80 працэнтаў.

**Ася КУНІЦКАЯ.**

## На магіле роднай вёскі

За савецкім часам на тэрыторыі цяперашняга Бярозаўскага сельсавета Докшыцкага раёна знікла больш за 40 населеных пунктаў: хутароў, засценкаў, фальваркаў, вёсак. Сярод іх і мая родная Слабада, якая ў архіўных крыніцах з 1664 года звалася Асавінская Слабодка і належала роду Стаброўскіх. Апошнія яе жыхары з'ехалі ў 1989 годзе. Я наведваюся на яе магілу разы 2-3 на год. У апошні вераснёўскі прыезд сёлета ў мяне нарадзіліся вось такія радкі аб ёй.

*Тут жыватворная зямля,*
*Вякамі тут жыццё жыло:*
*Стаялі шчыльна хата к хаце,*
*А ў вокнах зыркае святло*
*Струменіла ад сэрцаў маці.*

*Раслі і дочкі, і сыны*
*Святлом аблашчаныя гэтым.*
*І вырасталі муляры,*
*А зрэдку нават і паэты.*

*І мацавалі родны край*
*На рыштаваннях і у полі —*
*Збіралі дружна ураджай,*
*Кідалі зерне ў гоні — ролі.*

*Ды вось прыйшоў няўмольны час —*
*Жыццё сплыло з панілых хатаў:*
*Тут не спаткаеш болей нас —*
*Ні сейбітаў, ні тых салдатаў.*

*Адны, аджыўшы, паляглі*
*Навек у боскую пасцель,*
*Другія ў іншы край сплылі,*
*Як без штурвала карабель.*

*Стаю на прадзедаў грунтах,*
*Хаджу па колішніх валоках,*
*А ў паднябессі плача птах —*
*Зблудзіўся жораў у аблоках.*

*Сюды я ездзіў бы штодня:*
*П'ю водар ніў і не нап'юся —*
*Тут жыватворная зямля,*
*Куточак любай Беларусі.*

**Віктар СКАРАХОД.**



## Вот и вся ее семья

Поначалу Татьяне Глушаковой, выпускнице Гомельского музыкально-педагогического училища имени Л.Выгодского, казалось, что попала в такую глушь, что хуже и не придумаешь. Хоть и красивое название деревни — Дубовый Лог, но вокруг только отселенные после чернобыльской аварии деревни, до районного центра Добруша больше десяти километров, а учеников начальных классов, которых ей предстояло учить грамоте, всего семь человек. Пять из которых — первоклашки...

Но пошел уже третий год. И отдает она своим воспитанникам душу, иначе и не скажешь. Видимо, оттого, что поняла: учить этих семерых ребят некому, нет смысла объяснять, что желающих работать в городе больше, чем в глухой деревне. И мысль о том, чтобы уехать отсюда, отступила. Это, вероятно, и есть призвание.

**На снимке:** *Татьяна Глушакова со своими воспитанниками.*

**Фото Сергея ХОЛОДИЛИНА, БелТА.**

Страницы истории

# "Лисовчики"

В первой половине XVII века существовала легендарная и непобедимая легкая белорусская кавалерия под ласковым наименованием — "лісоўчыкі". Появление и наибольшая слава этого специального воинского формирования связана с именем Александра Лисовского (1575—1616) — талантливого военачальника (за удачные военные операции получил чин королевского полковника), белорусского шляхтича с Виленщины. Именно он создал до того не известные в Восточной Европе отряды с отличительной, особенной тактикой и организацией.

Вооруженные саблями, луками и пиками, а иногда и легким огнестрельным оружием, "лисовчики" отличались исключительной мобильностью, способностью осуществлять многочисленные рейды на сотни километров. Этому способствовало и отсутствие обоза — всадники живились тем, что добывали сами. Их выделяло умение проводить широкую разведку, наносить неожиданный удар, отступать с наименьшими потерями в безнадежной ситуации. Все это позволяло им неоднократно разбивать намного превышающие силы противника и даже штурмовать города.

Блестящая военная карьера А.Лисовского началась с конца 1607 года, во время гражданской войны в Московской державе и авантюры Дмитрия II (Самозванца). Приблизительно три года он со своими всадниками, которых временами насчитывалось до нескольких тысяч, сражался в Московии, делая глубокие рейды в тылы противника. Среди наибольших успехов были захват Коломны, Галича, Соли Вычегодской, набеги на Ярославль, Кострому, Кинешму, походы на Рязанщину, Псковщину и Новгородчину, в Суздальскую и Владимирскую область.

Доблестные военные успехи принесли европейскую славу Александру Лисовскому и его воинам. Летом 1615 года, чтобы отвлечь царские силы от слабо укрепленного Смоленска, великий гетман Я.Ходкевич снова послал "лисовчиков" в глубь Руси... а Лисовский двинулся на Северщину и захватил Карачев и разгромил под Орлом войска князя Хованского. Делая мгновенные и неожиданные для врага переходы, иногда до 150 км в сутки, "лисовчики" наводили панику в далеком тылу основных московских войск. Главной ареной их действий стало Поволжье. Это связывало крупные царские силы, благодаря чему и удалось отстоять Смоленск.

Не сравнимые в кавалерийских сечах и безоглядной храбрости, "лисовчики" выделялись также жестокостью, авантюризмом и жаждой добычи. Сохранились полулегендарные сведения об их походах далеко на север, до берегов Белого моря и даже до устья реки Обь, в поисках знаменитой "золотой бабы" — поганского идола, которому поклонялись народы Севера.

В октябре 1616 г. во время смотра боевой готовности своих отрядов под Стародубом (ныне территория Брянской области), Александр Лисовский внезапно умер. Его смерть восприняли в Московии каб божье чудо избавления от страшной опасности.

Однако после этого формирования "лисовчиков" не прекратили своего существования: просто ареной военных действий стала уже преимущественно Центральная и Западная Европа, где они воевали в основном как наемники германского императора. Их неудержимый напор и неистовство испытали Чехия, Угорщина (Венгрия), прирейнская Германия, Франция, Италия. К середине XVII века отряды "лисовчиков" рассыпались и перестали существовать.

Теперь только военные историки будут изредка напоминать о фактах их некогда громкой славы и дьявольской силы.

**Подготовил А.ШУСТОВСКИЙ.**
**г.Борисов.**

## Улады Беларусі ўсяляк імкнуцца стрымаць рост зарплаты, лічыць былы міністр працы Беларусі А.Сасноў

"Раздзімаемы афіцыйнай прапагандай міф аб росце зарплаты ў Беларусі дэманструе, хутчэй, вынікі намаганняў работнікаў дзяржаўнай статыстыкі, чым аб'ектыўную рэальнасць". Такая выснова ўтрымліваецца ў дакладзе былога міністра працы Беларусі Аляксандра Саснова, які ён зрабіў на пасяджэнні Нацыянальнага выканаўчага камітэта Беларусі ("ценявога" ўраду).

Паводле інфармацыі былога міністра працы, у верасні 1999 года тарыфная стаўка першага разраду з усімі надбаўкамі, даплатамі і індэксацыяй складала толькі 27,7 працэнта мінімальнага спажывецкага бюджэту. І нават тарыфная стаўка вышэйшага 28-га разраду разам з індэксацыяй склала ў верасні 78,7 працэнта мінімальнага спажывецкага бюджэту.

На думку Аляксандра Саснова, для рэальнага павышэння ўзроўню зарплаты, узмацнення яе стымулюючай ролі і ўзнаўленчай функцыі неабходна радыкальна змяніць сацыяльную палітыку ў гэтай сферы. Перш за ўсё варта вызваліць гаспадарчыя суб'екты ад празмернай адміністрацыйнай апекі і вярнуць ім паўнамоцтвы, якімі яны валодалі ў сферы аплаты працы да 1995 года.

**Уладзімір ГЛОД.**

## З замежнікамі ў нас не цырымоняцца

Усё больш жыхароў суседніх дзяржаў на сабе адчуваюць жорсткія рэаліі беларускай рэчаіснасці. Варта было прадпрымальніку з Шаркоўшчыны толькі дамовіцца на аўтастанцыі ў Браславе з прыехаўшымі сюды двума жыхарамі Латвіі аб набыцці ў іх невялікай партыі валюты, як усіх трох імгненна затрымалі. У новаспечаных парушальнікаў дэкрэта №1 забралі 253 долары, 5 латаў і 60 мільёнаў "зайчыкаў". Каб не мучыцца на халодных турэмных нарах, трое парушальнікаў-валютчыкаў заплацілі за свабоду яшчэ 110 мільёнаў рублёў дадатковага штрафу.

Дарэчы, падобных выпадкаў на Браслаўшчыне набралася сёлета 44, калі за ўвесь мінулы год па "валютным" дэкрэце прыцягваліся да адказнасці 19 чалавек. Яшчэ аднаго латвійскага грамадзяніна, які ўехаў на Беларусь па падробным страхавым полісе, аштрафавалі на 50 мільёнаў рублёў і канфіскавалі ягоныя патрыманыя "Жыгулі".

**Уладзімір ШАЙКОЎ.**

## Не гараць у печцы сырыя дровы

Кожны новы ацяпляльны сезон дабаўляе праблем таксама і ў дамах прыватнага сектара. Толькі ў Полацкім прадпрыемстве па паліве да гэтага часу застаюцца незадаволенымі заяўкі больш як 800 палачан на набыццё торфабрыкету. Асвейская торфапрадпрыемства з-за канчатковага зносу абсталявання спыніла дзейнасць.

Другі пастаўшчык — завод у Крулеўшчызне з мяркуемых дзесяці паставіў сюды толькі адну тысячу тон брыкету. Дрывамі лясгасы таксама не спраўляюцца забяспечыць усіх жадаючых, а пяць старых і выпрацаваўшых свой рэсурс торфаздабываючых заводаў Віцебшчыны не могуць поўнасцю забяспечыць палівам пастарэўшае насельніцтва і аб'екты вытворчай і сацыяльнай сфер. Нават у сельскай мясцовасці разлічваць на тое, што ім дапамогуць дрывамі, могуць толькі інваліды і ўдзельнікі вайны. Вельмі многім старым застаецца або мерзнуць, або клапаціцца аб паліве для печкі самастойна.

**Уладзімір ШЫТАЎ.**

## Триллионы из наших карманов

**Экономические достижения последних пяти лет превратили Беларусь в страну миллионеров. Хотя, признаться, гордости за свою страну это нам не прибавило. Если реальная стоимость миллионной банкноты равняется менее чем двум долларам, то поневоле любой белорусский миллионер предстает только в качестве отрицательного примера: "Смотрите все, так жить нельзя!"**

**Но лично меня уже волнуют не миллионы, а триллионы. Как известно, наше правительство одобрило свои достижения и собирается развивать их дальше и в том же направлении. Можно долго говорить на эту тему, но ограничусь всего одним фактом. Оказывается, успехи белорусской экономики зашли так далеко, что в этом году дефицит бюджета (то есть превышение расходов государства над доходами) составит по меньшей мере 34 триллиона рублей. Почему по меньшей мере? Потому, что эту цифру официально назвал министр финансов Н.Корбут, но государственные чиновники, как правило, имеют склонность смотреть на белорусскую экономику сквозь розовые очки. И, следовательно, вполне можно ожидать гораздо большей цифры, чем заявленная оптимистами из правительства.**

**Но даже если рассмотреть и эти 34 триллиона, то выводы надо делать самые неутешительные. Данное превышение расходов над доходами еще ближе подтолкнуло наше государство к экономической пропасти. Чтобы представить всю значительность этой суммы, приведу для сравнения, следующий пример. За весь 1998 год на нужды сельского хозяйства страны было затрачено около 23 триллионов рублей. Теперь, я думаю, понятно, какая проблема ожидает всех нас в конце текущего года. Ведь перед руководством встанет вопрос — где взять эти недостающие триллионы?**

К сожалению, власти, как обычно, начнут применять (и уже применяют) необременительные для себя меры. Чтобы появились деньги, надо уметь выпускать качественную продукцию, уметь торговать ею и добиваться понимания у своих партнеров. Нынешнее же правительство действует совершенно по-другому. Конечно, в первую очередь для него проще всего напечатать деньги и избавиться от хлопот по их зарабатыванию. Если за первое полугодие 1999 года было напечатано 19,9 триллиона рублей, то уже за июль — первый месяц второго полугодия — еще 15,4 триллиона рублей. Но выпуск в обращение новых напечатанных денег обычно порождает рост цен и требует следующего, очередного печатания банкнот. Это порочный и замкнутый круг, который только увеличивает величину бюджетного дефицита.

Официальные экономисты знают об этом из учебников, которые хорошо подтверждает белорусская действительность, и поэтому не стремятся включать на всю мощь печатный станок. Они в который раз начинают искать лишние деньги в наших карманах. Например, путем увеличения налогов, кредитных выплат, различных пошлин и сборов. Или таким оригинальным образом, как введение обязательного страхования транспортных средств. А если не хватит и этого, то увеличивается план по штрафам. Хотя и так сегодня наше государство "зарабатывает" каждый десятый рубль в казну именно с помощью штрафов. Ведь это легче, чем думать о том, как протолкнуть белорусские товары на европейский рынок.

В итоге получается, что руководство страны вспоминает о существовании простых граждан лишь в процессе налогообложения или принудительного страхования. Да еще и уверяет их в том, что жизнь прекрасна. В феврале этого года, например, Лукашенко преспокойно заявил следующее: "Мы на правильном пути". Он пообещал своим слушателям, что "1 октября мы с вами встретимся, посмотрим друг другу в глаза, и вы со мной согласитесь: я выполняю свое обещание, данное белорусскому народу..." Сколько уже тех обещаний, Александр Григорьевич?

**Сергей АРЖАНЦЕВ,**
**житель г.Климовичи.**

Жыццё як яно ёсць

## Несанкцыянаваны мітынг

У мінскім магазіне "Акіян" гандлююць дарамі мора. Заглянуў нядаўна і я ў яго. Спыніўся каля вітрыны з далікатэсамі: яна адразу злева ад уваходу.

— Гляньце, што робіцца! — са змешаным пачуццём іроніі і непрыемнага здзіўлення ўсклікнула жанчына сярэдніх гадоў. Яна глянула на мяне, а я — на вітрыну.

— Бачыце? Жах! Жабіны ногі прадаюць аж па трынаццаць мільёнаў пяцьсот восемдзесят пять тысяч рублёў.

Сапраўды, на цэнніку значылася такая лічба. А жанчына, уражаная ўбачаным не магла супакоіцца:

— Во дажыліся. За кілаграм жабіных лытак трэба выкінуць паўтары, а то і дзве месячныя пенсіі. Ды за такія грошы я ў якім-небудзь балоце магу налавіць ім мяшок жабаў, няхай рвуць ім ногі і ядуць.

Яшчэ пару чалавек, што падышлі, зарагаталі. Але весялосці ў іх смеху не адчувалася.

— Ну, жабы — чорт з імі, — сказаў мужчына. — Не хочаш, то не купляй. Але як жыць без мяса (яно 800 тысяч за кіло), без селядца (500—700), без масла (800—900 і больш), алею (500)... Пенсіі, зарплаты нават на ежу не хапае.

Добра што не было тут амонаўца: мог бы пакараць пакупнікоў за "арганізацыю несанкцыяванага мітынгу".

## Сорамна!

Чвэрць стагоддзя спатрэбілася "зялёнай службе" Фрунзенскага раёна сталіцы, каб вырасціць прыстойны парк на вуліцы Жудро. Месца высокае, пясчанае, многія дрэўцы не прыжываліся, па некалькі разоў замест іх садзілі новыя. Урэшце дрэвы ўзяліся ў сілу. Сёння парк — малады, прыгожы. Групы дрэў розных парод, алеі, паляны радуюць вока. Трава густая. Ёсць азерца. Усё было б добра, каб не быдла (інačай не назавеш), якое нішчыць тое, што стварался ў парку для прыемнага адпачынку людзей.

Я часта хадзіў у гэты парк з унучкай. Ёй вельмі падабаўся казачны дзіцячы гарадок. Крапасныя драўляныя сцены, вежы, байніцы, хады і выхады. Чаго толькі не было: арэлі рознай формы, горкі, церамкі... У гарадку з раніцы да вечара было шумна, весела, з усёй ваколіцы ў ім царавалі дзеці, а мамы, таты, бабулі радваліся на сваіх хлопчыкаў і дзяўчынак. А сёння... Сёння амаль следу не засталося ад той прыгажосці. Усё зламана ўшчэнт.

Па парку была пракладзена "сцежка здароўя", пазначана на камянях і слупках адлегласць (пройдзеная), рэкамендавалася, як яе пераадольваць (бягом, пешшу, павольна). У некалькіх месцах стаялі "сценкі", віселі шасты для лазання, прыстасаванні для трэніроўкі мускулаў і г.д. Ад сцежкі таксама нічога не засталося, ні жалезнага ні драўлянага. Пабітыя ўсе свяцільнікі. Азерца ператворана ў смеццевую яму.

Брыдка глядзець на сляды такога вандалізму. Сорамна за такіх мінчан.

## Разагналі рыначак

Рыначак узнік стыхійна. Адна-другая бабулька пачалі збываць каля магазіна "Масюкоўшчына" (вуліцы Глебкі) свае прадукты з уласнай гаспадаркі: памідоры, агуркі, цыбулю, яблыкі, слівы, пятрушку, цыбулю і іншую гародніну ды садавіну. Спачатку не кожны дзень, затым штодзённа. Стала больш прадаўцоў — пабольшала і пакупнікоў. Жыхарам суседніх шматпавярховых дамоў, пасёлка Масюкоўшчына клопатаў паменшыла: выскачыў з дому — і хутка купіў што трэба, не трэба ехаць на Камароўку ці ў Ждановічы.

Але ў нашым грамадстве дзейнічаюць два прынцыпы: "ніззя" і "перамагае той, хто бліжэй да ўлады ці ва ўладзе". Таму аднойчы, прыйшоўшы на "свой" рыначак, пастаянныя яго пакупнікі рыначка... не ўбачылі. Аказалася, што яго разагнала міліцыя. Чаму? Ды ён не спадабаўся кіраўнікам "Масюкоўшчыны" — прыватнаму акцыянернаму таварыству, якое, акрамя магазіна, мае тут кафе "Вячэрні", а ў прыбудове — гандлюе півам, хлебным квасам. Не спадабаўся "прыватны гандаль бабуляк" каля магазіна. Выхад, значыць, адзін: ату іх!

Такіх рыначкаў у горадзе нямала. Яны мінчанам зручныя. Калі таму-сяму перашкаджаюць, то стараюцца, як "масюкоўшчынцы", ліквідаваць, спасылаючыся на розныя прычыны: маўляў, з зямлі гандлююць ды іншую антысанітарыю разводзяць. У гэтым ёсць доля праўды. Але праўда і ў тым, што разгоншчыкі самі не вызначаюцца, скажам так, акуратнасцю. Дастаткова сказаць, што каля піўнога ларка "Масюкоўшчыны" не менш, калі не больш антысанітарыі: акуркі, папера, перавернутыя ўрны, вылітае на зямлю і тратуар педапітае піва, аднаразовыя шклянкі.

То чаму не вырашыць пытанне па-чалавечы? Выгадныя, зручныя такія рыначкі — няхай улады дапамогуць абсталяваць іх: выдзеляць месца, грошы на сталы для гандлю і г.д., на догляд іх.

А то забарона рыначкаў нагадвае сумнавядомую традыцыю нядобрапамятных гадоў: няма чалавека — няма праблем.

**Мікалай ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**

